# АКЦЯБРАТАМ

*Верш УЛ. РАМОНАКА* *Музыка В. ЯФІМАВА*




**То ня дрэвы шумяць**
**За сьцяною,**
**То ня вецер**
**За вёскай гудзе,—**
**Гэта юная раць**
**Акцябратаў**
**Роўным строем**
**Пад сьцягам ідзе.**

**Ідзе сьмела і дружна**
**Уногу**
**Між зялёных**
**Колгаскіх прысад.**
**Піонэрам ідзе**
**На падмогу**
**Гэта юная**
**Раць акцябрат.**

---

## Акцябрацкія частушкі

**Удзень Настулька сваёй маме**
**Ў працы памагае,**
**А вечарам лемантар**
**Ёй, старой, чытае.**
**Сёньня няма на дварэ**
**Янкі, Мішкі, Грышкі,—**
**Ў школу ўсе яны пашлі,**
**Ўзяліся за кніжкі.**

**Акцябраты Тодар з Волькай,**
**Піонэрык брат Якім,**
**Сястра Насьця комсамолка,**
**На грудзёх у яе КІМ.**
**Эх, і рад сёньня Кандрат,**
**Рады Насьця з Верай,—**
**Перадалі з акцябрат**
**Іх у піонэры.**

*Алесь Весялушка.*

---

Фотомонтаж вокладкі А. ТЫЧЫНЫ па фотоздымках з часопісі „СССР на стройке".

ШТОМЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ ДЛЯ МЕНШЫХ ДЗЯЦЕЙ

ОРГАН ЦК ЛКСМБ і НАРКАМАСЬВЕТЫ

Год выданьня 3-ці

# ІСКРЫ ІЛЬІЧА

Умовы падпіскі:

| | |
|---|---|
| На 1 месяц | 15 к. |
| На 3 м-цы | 45 к. |
| На 6 м-цаў | 90 к. |
| На 1 год | 1 р. 80 к. |

№ 3 сакавік 1931 г.

Адрас рэдакцыі і канторы: МЕНСК, КОМСАМОЛЬСКАЯ, 25

## ЗА ДРУГУЮ БАЛЬШАВІЦКУЮ ВЯСНУ

Другі год пяцігодкі паказаў, што „Пяцігодку за 4 гады“ мы зможам і павінны выканаць.

Улічыўшы вопыт мінулага году, комуністычная партыя і савецкая ўлада склалі плян трэцяга рашаючага году пяцігодкі.

У гэтым годзе рост усяе нашае гаспадаркі павінен быць большым, чым у першыя гады. 45 процантаў бядняцка-серадняцкіх гаспадарак Беларусі павінна быць колектывізавана.

У гэтым годзе нам трэба значна павялічыць ураджай, пашырыць жывёлагадоўлю і плошчу зямлі пад засеў.

Вялікая і галоўная доля работы паводле пляну трэцяга году па сельскай гаспадарцы прыпадае на вясну. Вясною нам трэба правесьці асноўную работу.

Акцябраты, піонэры і вучні! Выступайце на змаганьне за другую большавіцкую вясну. Дамагайцеся таго, каб:

— палавіна бядняцка-серадняцкіх гаспадарак была колектывізавана.

— ніводнага кавалачка зямлі не пакінуць пуставаць без карысьці!

— ніводнага неачышчанага зерня вашы бацькі не пасеялі ў зямлю!

Змагайцеся за пашырэньне жывёлагадоўлі, організуйце таварыствы па гадоўлі птушак, трусоў, цялят, парасят. Уцягвайце ўсіх дзяцей у гэтую работу. Стварайце свае брыгады па дапамозе колгасам, саўгасам і бядняцка-серадняцкім масам па-ўдарнаму правесьці другую бальшавіцкую вясну. Організуйце праверку таго, як выконваюцца асобнымі гаспадаркамі заданьні па колектывізацыі і сяўбе.




Апавяданьне К. ДЗЬМІТРАВАЙ. Малюнкі А. ТЫЧЫНЫ.

Вось і красавік прышоў, дні сталі даўжэйшымі, на дварэ пацяплела. Сонейка грэе цяплей.

Хоць і вясёлая была зіма, і добрымі былі зімовыя забавы, а ўсё-ж дзецям ня шкода яе. Вясною таксама знойдзецца работа, знойдуцца новыя гульні. Усюды ўжо раўчукі засакаталі, а з поўдня ляцяць нашы госьці—шпакі, гракі, жаваранкі.

Калі зусім растане сьнег—дзеці паедуць з бацькамі на поле араць і сеяць. Дзецям вельмі хацелася ўбачыць, як будуць араць трактарам, які нядаўна прывезьлі ў колгас з гораду.

Маленькі Петрык таксама зьбіраецца на поле, але яшчэ ня ведае—возьме яго бацька, ці не.

Вельмі хацелася Петрыку ехаць на поле.

Урэшце, ён запытаў у бацькі:

— Тата, возьмеш мяне з сабою на поле?

— Чаго? Вось яшчэ што выдумаў!

— Паглядзець хачу, як трактарам будуць араць,—кажа Петрык.

— Перашкаджаць толькі будзеш. Сядзі лепш дома,—адказвае бацька.

Але Петрык не адставаў ад бацькі:

— Вазьмі, татачка. Я ня буду перашкаджаць.

— Ну, добра, паедзем,—згадзіўся бацька.

Ледзь дачакаўся Петрык таго дня, калі ўжо зьбіраліся ехаць на поле. У гэты дзень ён устаў раней, чым усе разы.

Прыехалі на поле, а там ужо людзей шмат. Дзеці акружылі трактар, глядзяць, дзівяцца.

— Вось якая вялікая машына,—сказаў Петрык, калі яны з бацькам падышлі да трактара.

У гэты час да машыны падышоў малады хлопец. Рукі ў яго былі запэцканыя ў мазь. Гэта быў трактарысты. Ён пакруціў ручку, што была сьпераду трактара. Трактар моцна загудзеў, задрыжаў.

Дзеці адбегліся ў бок, а трактарысты сеў на круглую лавачку на трактары, пакруціў за кола і машына кранулася. Ззаду да трактара прычэплена пяць плугоў. Яны глыбока ўрэзваліся ў зямлю. Скібы зямлі роўненькімі шнурочкамі клаліся адна на другую.

Петрык за ўсім уважліва сачыў.

Калі ён вярнуўся дамоў, дык яго сябры, пыталі, што ён бачыў на полі.

— Вось дык дзіўная машына гэты трактар. Цэлых пяць баразён адразу арэ. Хутчэй за каня,— казаў Петрык сябром.



А. Я.

# ЗА ПЯЦІГОДКУ Ў ЧАТЫРЫ ГАДЫ


*Трактарная калёна*

Завод грыміць,
Шуміць паводкай,
Зьвініць, шыпіць,
Шыпіць, гудзе.
Час не чакае,
Час кароткі...
—Працуй, завод,
Для пяцігодкі,
Без перапынку
Дзень-у-дзень!

*
* *

І грук, і стук
Пад іскры сталі...
Як гром,
Кругом нясецца хваляй
Шырокай водгульле ў палёх.
Для новых дзён
Жыцьця паўсталі
Мільёны сьмелых кавалёў.
—Гэй, машыністы!
Поўны ход!
Кліча ударны
Трэці год!

*
* *

Каб хутка расьлі ў нас
Колгасы, заводы,
Каб красавалі
Палі на балотах,
Там, дзе дрыгва і выжары—
Дружна паўстанем
На змаганьне
За пяцігодку, таварыш!
—Гэй, брыгадзіры!
Шчыльней рады!
За пяцігодку
Ў чатыры гады!



# ПЕРШАЯ БАРАЗНА

*Нарыс Р. АКУЛЬШЫНА*

Гэта была першая работа колгасу. Трэба было ўзараць 500 гектараў.

Вечарам, перад выездам, на прызбах хат сядзелі колгасьнікі і размаўлялі аб заўтрашнім дні.

— Трэба раней выехаць.

— Добра-б было фотографа ўзяць, няхай-бы зьняў такі малюнак. Калі гэта было, каб зразу 200 плугоў выяжджала?

На другі дзень у пяць гадзін раніцы радасна зашумеў новы колгас. Адчыняліся вароты, з двароў выяжджалі хурманкі, вуліца запаўнялася калёсамі і плугамі. Шум разбудзіў дзяцей. Ня мыўшыся, яны пабеглі на вуліцу. На аднэй хурманцы красаваўся сьцяг. Ён быў прывязан да дугі.

Малады старшыня сельсавету сказаў:

— Мы даўно думалі аб колгасе. Наша думка стала праўдай. Калёсы новага жыцьця з кожным днём коцяцца ўсё шпарчэй. Іх ня спыняць кулацкія палкі і розная кулацкая хлусьня.

Пасьля старшыні з прывітаньнем выступіў піонэр.

— Дарагія таварышы—бацькі і маткі! Мы, піонэры, ня бачылі вашага ранейшага жыцьця. Але мы чулі ад вас, як цяжка вам жылося. Цяпер вы будзеце жыць па-новаму. Мы, піонэры, заўсёды гатовы дапамагчы вам у добрай справе. Няхай жыве колгас „Новае жыцьцё“!

Хурманкі накіраваліся да гумнаў. „Сьмела, таварышы, ў ногу“,—зацягнула моладзь.

За гумнамі шырокаю палосаю ляжыць зялёны выган, а далей палеткі. На выгане хурманкі выехалі на адну дарогу. Справа і зьлева ад хурманак ішлі сяляне. Пыл круціўся над галовамі. Дзеці бегалі па полі, гулялі.

— Прышоў канец вузкім палоскам,—казалі старыя і малыя.—Шмат зямлі прападала дарэмна. Сотні гадоў рос на межах непатрэбны быльнёг. Межы адлучалі нас адзін ад другога. Межы паміраюць. Пачынаецца новае жыцьцё!

ЗЬМІТРО ВІТАЛІН

# ВЯСНА

Прайшлі завеі лютыя,
Прайшлі марозы Лютага,
І вось ідзе да нас
Шумлівая,
Бурлівая,
Колгасная вясна...
Куды ні глянь—праталіны,
Сыходзіць сьнег.
Жвавейшымі ўсе сталі мы—
Вясельле, сьмех...
І вось—усёю школаю,
Сям'ёю разьвясёлаю
Ідзём мы на палі,
Глядзець на рунь колгасную
Вачыма сьветла-яснымі
І слухаць гул зямлі...
Ой, скора, скора, скора
На гэтых вось палёх
Машына загуторыць,
Хаваючы быльнёг...



Мал. РАЗАНАВА



* * *

Вясёлы дзень,
Вясновы дзень!
Глядзі, як ручайкі імчацца...
— Ня буду ў хаце я сядзець!—
Сказаў Рыгорка матцы.
Сказаў і куляй паляцеў
На вуліцу, на ўзгорак,
Дзе сьмех і гутаркі дзяцей,
Дзе „караблі“ і „мора“...
— Хутчэй, Рыгорка, гэй,
хутчэй!—
Крычаць яму адразу:—
Чый карабель плыве ямчэй —
Ганкін ці Панасаў?!
А караблі плывуць, плывуць
І хіляцца ад ветру.
І раптам—круць!
Два разы круць!—
І ўпаў у воду ветразь.

Спыніўся Ганчын карабель,
І Ганка плача горка.
— Ня плач, другі зраблю
табе,—
Гаворыць ёй Рыгорка.
І кажа ён яшчэ:
— Хадзем,
Хадзем хутчэй у школу,
Сягоньня школа ўся ідзе
Зьбіраць колгасу попел.
І нам таксама трэба йсьці,
Нам трэба прывучацца...
І засталіся ручайкі
Адны-аднымі ймчацца.

* * *

І цэлы дзень,
Цалюткі дзень
Зьбірала попел школа,
І цэлы дзень
Зьвінеў струмень
Дзіцячы, разьвясёлы.
Са скрынкамі,
Вядзёркамі
Брыгада
Рыгоркі
Хадзіла,
Зьбірала,
Грабла,
Выграбала.
З печак, са скрынак—
У вялікую скрыню...
І ў час вячэрні,
Як мароз
Пачаў сьціскаць
Зямлю адразу,
Брыгада везла
Цэлы воз
Попелу—
Колгасу.

* * *

Ідзе вясна, ідзе да нас,
Шумлівая, бурлівая!
Яна надорыць наш колгас
Квітнеючымі нівамі.
І ходзяць ў лужах караблі
З картону і паперы.
Глядзі, глядзі, як паплылі
Наперад і наперад.
Ідзе вясна, ідзе вясна,
Шумлівая, бурлівая.
Яна надорыць шчодра нас
Квітнеючымі нівамі.






*Урывак з твору „Свая воля", які на Ўсебеларускім конкурсе на лепшую дзіцячую кніжку атрымаў 2-ую прэмію.*

Лета ўбіралася ў сілу...

Усе, старыя і малыя, высыпалі на сенажаці.

Касавіца ў поўным разгары.

Колгасьнікі белымі матылямі рассыпаліся па Зарэччу. Мужчыны, мокрыя ад поту, ахвотна налягаюць на косы, завіхаюцца, каб да вечара аблажыць куты Зарэчча. Ужо ня так многа і засталося. Трэба сьпяшацца, бо работы шмат. Пагода стаіць над лугамі ды палямі, як дым. Жыта вось-вось папросіць жняяркі. А там — ячмень тапырыць свае калючыя вусы, надзімаецца і скардзіцца, што пара-пара і яму аддаць нізкі паклон. За ячменем і аўсы пачынаюць шапацець сухімі сьпелымі, густымі ды буйнымі веткамі. Гарачы час настаў для колгасу „Перамога"!

Косяць мужчыны сенажаць, ахвотныя ды вясёлыя. Старшыня колгасу дзядзька Язэп наперадзе ідзе, рэй вядзе. А за ім пяцьдзесят шырокіх роўных дарог-пракосаў высьцілаецца. Сьвішчуць сталёвыя косы, сыплецца звон ад мянта-

шак, пакорна складае сваю кучаравую чупрыну сенажаць.

— Хлопцы, пацей, здаравей будзе для касьцей! — жартуе Язэп, азіраючыся, што хлопцы крыху змарыліся і за ім не пасьпяваюць.

А і сапраўды цяжка даганяць дзядзьку Язэпа.

Некалі ён адзін скошваў траха ня ўсё гэтае панскае Зарэчча на чацьвертую часьць.

Язэп—бядняк, жыў у вёсцы, як куткавы. Карміўся з сваіх рук. Усё рабіў на часьць. І зямлю ўрабляў, і сенажаці касіў на часьць. І пастаянна трэба было рабіць за чатырох, каб мець хоць крыху на аднаго,—за работу больш не давалі, як чацьвертую часьць. Таму і прывык за век дзядзька Язэп рабіць усё борзда, завіхаючыся.

Важны работнік дзядзька Язэп. Няма тае работы, дзе ён не дапаможа, чаго ён ня ведае. І любяць за гэта колгасьнікі Язэпа, шануюць і паважаюць яго, як старэйшага і шчырага работніка. Затое ўжо дзядзька ня сьцерпіць, калі хто загультаіць.

— Сэрца маё не дазваляе гэтага бачыць,— кажа дзядзька Язэп гультаю.

Гэта адразу зьбівае з ног кожнага, да каго гаворацца такія словы.

Вось якім быў дзядзька Язэп.

— Пакурыць, хлопцы!—заклікае касцоў Язэп, давёўшы пракос-шнур да рэчкі, дзе красаваўся новенькі, толькі што збудаваны млын.

Мужчыны па чарзе даганяюць пракосы да берагу, мыюць у рэчцы косы, выціраюць іх насуха і засоўваюць у вільготную траву,—няхай і яны адпачнуць. Паволі бераг ажывае. Цэлымі хмарамі сьцелецца кучаравы дым, махорка пяр-

шыць у горле і мужчыны моцна кашляюць. Ад першых зацяжак траціцца змора, цела, прывычнае да гэтага „лякарства“, ачуньвае.

— А помніце, мужчыны, як мы кожны год ваявалі на гэтым беразе?—пачынае гаворку дзядзька Язэп.—І дагэтуль рубцы не пасходзілі,—зірнуў ён на Міхалінчынага Тодара.



*Так, было калатні за гэты бераг!*

...Так, было калатні за гэты бераг! Зарэчча раней належала пану Альхіровічу. Потым, пасьля рэволюцыі, яго аддалі Борскаму сельсавету для вёскі Алёхаўкі.

Зарэчча дзялілася кожны год. Кожны год цэлымі днямі грымеў бераг, калацілася балота. Усякі лічыў, што яго крыўдзяць, абкрадаюць, ссуць з яго кроў, што другім даюць больш і лепшы кавалак. І ня раз, каб разьвязаць праклятую спрэчку, пускаліся ў работу нажы і косы... Тады на балота прыходзіў увесь сельсавет і законам пастанаўляў, каму колькі і дзе касіць. Мужчыны к гэтаму часу таміліся, здаваліся ў спрэчках і браліся за работу, скоса паглядаючы адзін на другога, як на ворага.

Бывала, толькі зімою, калядамі, за чаркаю гарэлкі, мірыліся „ворагі“. А налета зноў музыка пачыналася спачатку...

Дзічыла і губіла людзей мізэрная ўласнасьць...

Мужчыны пакурылі, пагаманілі пра млын, які ўжо гатоў і чакае толькі мельніка, пахвалілі лішні раз Юзіка, што добрым „аграномам“ стаў, паскардзіліся на кепскага старшыню сельсавету Барадзіка, што бяз дай прычыны чамусьці абараняе іх ворага, валочніка Вінцэся, і пачалі даставаць з травы свае косы.

— Вечар блізка, мужчынкі, сонца ўжо на седала спускаецца. Трэба завінуцца,—сказаў вясёлы Язэп, пачынаючы новы пракос.

А з другога боку Зарэчча стракацілася ад белых жаночых хустак. Там з сенам ваявалі бабы. Мужчын было зусім мала. Яны, як буслы, высіліся на стагох, а ім самі бабы зносілі і падавалі ў стагі сена.

Песьні дзявочыя запаўнялі і ажыўлялі бераг з другога боку. Вясёлыя жарты і зычны рогат зьліваліся з песьнямі і стваралі нейкую новую музыку, музыку радасьці, паўнаты сялянскага жыцьця.



*Прозьвішчы аўтароў „Свае волі“, „Дзеда і ўнука“, урыўкі з якіх друкуюцца, будуць паведамлены чытачом у № 4 пасьля ўскрыцьця канвэртаў.*

# Вясна ідзе

*Апавяданьне ЎС. ШЫДЛОЎСКАГА*

*Мал. П. ГУТКОЎСКАГА*

I

На полі раставаў апошні сьнег. Раўчукі бруднай вады зьбягалі з узгоркаў ды каціліся лагчынаю ў рэчку. Сонца кожны дзень сьвяціла весялей і сям-там пачала падсыхаць зямля. Рыжы алешнік, што стаяў на балоце колгасу, пачуўшы вясну, пачаў распушчацца. Доўгія жоўтыя каткі пазьвісалі з яго галінак. Часамі, калі дзьмуў вецер, дык з гэтых каткоў вылятаў жоўты пылок і нібы дым узьнімаўся над алешнікам.

А ў колгасе ішла гарачая падрыхтоўка да веснавой сяўбы. У кузьні ладзілі трактар, плугі, бароны. На таку трыер ачышчаў насеньне, каб на поле не папала рознае пустазельле.

Янка, Гэлька, Пятрусь і Мікітка памагалі ў таку сваім бацьком ачышчаць ячмень. Яны зьбіралі з-пад трыеру чыстае насеньне і сыпалі ў мяшкі. Хутка ішла работа. Дзеці з вясёлым сьмехам працавалі каля трыеру. У школу яны сёньня не пайшлі, бо быў якраз выхадны дзень.

Пятрусь ухапіўся за ручку трыера і хацеў круціць, але рукі былі кароткія. Калі ён пацягнуў, ручка вырвалася ад яго і ён паваліўся. Дзеці засьмяяліся, а Пятрусь абцёр пыл з кален і стаяў моўчкі, апусьціўшы галаву.

— Малы ты яшчэ і рукі твае кароткія. Ты лепш ячмень зьбірай у мех,—гаварылі колгасьнікі.

— Нічога — падрасьце, дык усё зробіць, — сказаў бацька Пятруся.—А цяпер няхай прывыкае каля машыны. Машына— гэта ўсё. Яна ўсё зробіць. У наш век без машыны не абыйсьціся.



*... У кузьні ладзілі трактар, плугі, бароны*

Калі трыер суняўся, дзеці выбеглі на двор. Сонца залатым бляском абліло іх маладыя, сьвежыя тварыкі. Янка ўцягнуў у сябе сьвежае паветра, глянуў кругом і прагаварыў:

— Вясна ідзе! Ужо сьнегу няма, только вунь за алешнікам паводка ўзьнялася, паглядзіце!

— Ага!—у адзін голас прагаварылі дзеці.—Вада блішчыць!

— Давайце зьбегаем, паглядзім бліжэй,—прапанаваў Мікітка.

— Не... Трэба ісьці чытаць а то заўтра сорам будзе, што чытаць ня ўмеем—адмовіўся, Янка.

— А і праўда, трэба чытаць ісьці,—згадзіліся астатнія. Усе разам пайшлі да Янкі і пачалі чытаць „Веснавая праца ў колгасе“.

II

У школу сабраліся ўсе дзеці. Сьмех, крыкі, гутаркі голасна зьвінелі ў клясе і далёка чуваць былі на вуліцы. Каля школы на адталай і высахлай зямлі таксама гулялі дзеці, радыя прыходу вясны.

Званок паклікаў усіх у клясу, і настаўнік Андрэй Данілавіч пачаў гутарку аб веснавой працы ў колгасе. Спачатку ён гаварыў, а потым усе разам з кніжкі чыталі. Мікіта прачытаў лепш за ўсіх. Уперад ён зусім дрэнна чытаў, і толькі тады навучыўся



*Дзеці з вясёлым сьмехам працавалі каля трыеру*

добра чытаць, калі гуртам пачалі вучыць вурокі, па некалькі чалавек. Мікіта заўсёды чытаў разам з Гэляю, Пятрусём і Янкам.

Настаўнік Андрэй Данілавіч сказаў дзецям, што для школы колгас даў невялікі кавалак зямлі, дзе ўсе вучні будуць рабіць градкі. На гэтых градках пасеем розную гародніну: буракі, рэпу, моркву.

— Вы, дзеці, будзеце самі рабіць градкі,—гаварыў настаўнік,—будзеце самі сеяць і даглядаць за маладымі расьлінкамі. Будзеце наглядаць, як узыходзяць расьлінкі, чым яны харчуюцца і якую прыносяць карысьць.

— За гэтымі градкамі трэба будзе даглядаць добра, каб бацькі ўбачылі, што і вы можаце працаваць,—казаў настаўнік.

Слухалі ўважліва дзеці настаўніка, у клясе было зусім ціха. Усе прыслухоўваліся да кожнага слова. Дзецям не цярпелася—

хацелася ўжо бегчы рабіць градкі.

### III.

Праз тыдзень зямля зусім адтаяла і высахла. Сьнег ручайкамі зьбег у раку, а частку яго зямля ўсмактала, каб потым сьнегавою вадою карміць маладыя расьліны. Дні сталі цёплыя. На колгасным полі ішла ўдарная праца—сяўба.

У адзін дзень дзеці сабраліся з рыдлёўкамі ў школу. А адтуль разам з настаўнікам пашлі на адведзены колгасам кавалак зямлі.

Там яны шнурам разьбілі ўсю зямлю на маленькія кавалачкі і кожны вучань выбраў сабе пэўны кавалачак ды пачаў яго капаць рыдлёўкай, рабіць градкі. Работа ішла хутка. Стараліся дзеці, завіхаліся хутчэй скончыць. А праз гадзіны дзьве на гэтым кавалку зямлі было 30 прыгожанькіх градак. Зрабілі іх самі дзеці і пасеялі хто што хацеў. Хто буракі, хто моркву, а некаторыя пшаніцу пасеялі. Мікіта на сваёй градцы пасеяў адборнага ячменю, што праз трыер прайшоў. Добры быў ячмень.

— Во калі ўродзіць, дык на градцы больш вырасьце, чым у Гэндрыка неколгасьніка на загоне,—гаварыў Мікіта.

— Ты толькі яго даглядай. Тады ўсім пахвалішся, што ячмень у цябе ўрадзіў,—сказаў Мікіту настаўнік.

— Я буду добра глядзець... Мы ўсе будзем колектыўна даглядаць свае градкі. Колектыўна лепш.

Кожны дзень бегалі дзеці на градкі і, сагнуўшыся, пільна прыглядаліся да ледзь прыкметных ружовенькіх расьлінак.

Мікіта кожны дзень запісваў на кавалачку паперы тое, што ён заўважаў на сваім ячмені.





*Трактары МТС за працаю*

# ШТО ТАКОЕ МТС?

МТС—гэта машына-трактарныя станцыі. На гэтых станцыях ёсьць трактары і розныя сельска-гаспадарчыя машыны.

Будуюцца машына-трактарныя станцыі для таго, каб дапамагчы вёсцы перайсьці ад ручной працы на полі да машыннай, каб перайсьці ад дробнае гаспадаркі да буйнае гаспадаркі—колгасу.

Першая МТС была арганізавана ў 1928 годзе ў саўгасе на Украіне. Гэта МТС зрабіла дагавор з сялянамі 26-ці вёсак. Дагавор быў такі: сяляне аб'яднаюць усё сваё поле і зьнішчаць межы, а станцыя дасьць сялянам атрад трактароў з патрэбнымі машынамі і пашле сваіх аграномаў і мэханікаў.

Папрацавалі год і вышла вось што:

Расходы па вырабу зямлі зьменшыліся з 20 руб. на гектар да 14 руб. а прыбытак з гектару павялічыўся з 52 руб. да 83 руб.

Убачыўшы карысьць ад апрацоўкі зямлі машынамі, сяляне пайшлі ў колгас. Бо толькі ў колгасе можна набыць машыны.

Напрыклад, машына-трактарная станцыя ў Койданаве за мінулую восень арганізавала 20 новых колгасаў. У гэтыя колгасы ўступіла 540 дробных гаспадарак беднякоў і серадьнякоў.

Цяпер МТС ужо шмат. У Беларусі за 1931 год будзе арганізавана 23 новыя машына-трактарныя станцыі.

# САЎГАС „ГІГАНТ“

Каменны вугаль нам патрэбен для апалу машын на фабрыках і заводах. Вугаль дае сілу, якая прыводзіць у рух машыны. **Вугаль здабываюць рабочыя ў шахтах.**

Машыны нам патрэбны для таго, каб зрабіць лягчэйшай работу чалавека, каб рабіць работу хутка. Машыны бываюць усюды: на заводах і фабрыках, у колгасах і саўгасах. **Машыны вырабляюць рабочыя на заводах і фабрыках.**

Вопратка нам патрэбна для таго, каб апрануцца, каб захаваць наша цела ад холаду. **Вопратку робяць рабочыя на фабрыках.**

Хлеб нам патрэбен, каб карміць людзей, каб папаўняць патрачаную ў час работы сілу чалавека.

Хлеб ня менш патрэбен, чым вугаль. Нам патрэбна многа хлеба. І ня толькі хлеба, але і мяса, малако, масла.

А гэтага каштоўнага вугалю—хлеба—у нас мала.

— Чаму?

Буйныя колектыўныя гаспадаркі, фабрыкі хлеба—саўгасы—нядаўна толькі пачалі будавацца.

Да гэтага часу хлеб здабываўся ў маленькіх зярнёвых майстэрнях—дробных сялянскіх гаспадарках.

Але і ў гэтым ужо годзе колгасы і саўгасы далі нам траха не палавіну патрэбнага хлеба.

Чым-жа лепш буйныя соцыялістычныя гаспадаркі?

Тым, што ў іх можна працаваць вялікімі сельска-гаспадарчымі машынамі. У буйных соцыялістычных гаспадарках ня сустрэнеш сахі, сярпа, цэпа. Іх замянілі машыны.Аруць трактарам, жнуць жняяркаю, малоцяць вялікаю малатарняю. А ёсьць такая машына—**комбайн.** Яна жне, малоціць і зерне ачышчае. Цягне яе трактар.





Піонэры даглядаюць куранят у саўгасе

На Паўночным Каўказе ёсьць самая вялікая ва ўсім Савецкім Саюзе і нават ва ўсім сьвеце фабрыка хлеба—саўгас „Гігант“. Організаваўся ён у 1928 годзе. Гэты саўгас займае плошчу зямлі ў 170 тысяч гэктараў. Даўжыня поля, якое займае саўгас „Гігант“, 73 кілёмэтры, а шырыня 40 кілёмэтраў.

А як-жа наладзіць сувязь на гэтакім абшары? На фабрыцы паміж усімі рабочымі павінна быць сувязь. Майстар павінен ведаць, што робіць кожны рабочы, а дырэктар павінен ведаць, што робіць кожны цэх яго заводу.

А тут, на фабрыцы хлеба, ад аднаго атраду да другога па дзесяць кілёмэтраў.

Але і тут можна наладзіць сувязь. На палёх „Гіганту“ працягнуты правады тэлефону. Пры дапамозе тэлефону штаб саўгасу злучаны з кожнай брыгадай.



**Дамы, пабудаваныя на калёсах. У час работы тут жывуць рабочыя саўгасу**

Уся праца ў саўгасе „Гігант“ робіцца машынамі. У мінулым годзе там працавала больш за 200 комбайнаў. А кожны чалавек на комбайне замяняе сто чалавек без комбайна, калі-б тыя працавалі рукамі. Ёсьць шмат аўтобусаў, на якіх возяць збожжа. Аруць трактарамі.

— А дзе-ж там жывуць рабочыя?—запытаецеся вы.

Для рабочых пабудаваны рабочыя пасёлкі. Яны там і жывуць.

— А як-жа ходзяць на працу з пасёлкаў? Пакуль пройдзеш кілёмэтраў 30, дык і працаваць ужо ня будзе калі.

У саўгасе ёсьць дамы, пабудаваныя на калёсах. У рабочы час там жывуць рабочыя. Зробяць усё на адным полі, тады гэтыя дамы трактар перацягне на другое поле.

Розныя майстэрні, пошта, коопэратыў—усё гэта на калёсах.

У саўгасе нават ёсьць свая газэта „Гігант“. У гэтай газэце можна прачытаць пра ўсё, што робіцца ў саўгасе. Усе рабочыя чытаюць газэту і пішуць у яе.

Рэдакцыя газэты таксама зьмяшчаецца ў вагоне на калёсах. Езьдзіць вагон па брыгадах, зьбірае допісы, газэту раздае.

Рабочыя „Гіганту“ адзін другога выклікаюць на соцыялістычнае спаборніцтва. У газэце надрукавана:

**„Я, рулявы Мікола Насенка, выклікаю ўсіх рулявых на спаборніцтва. Бяру на сябе абавязак асьцярожна абыходзіцца з машынамі, каб не псаваць іх і не спазьняцца на працу“.**

Наша краіна ганарыцца „Гігантам“. Машыны зрабілі вялікую работу—з дзікага стэпу стварылася ўраджайнае поле. Але машынай кіруе чалавек.

Рабочыя „Гіганту“ паказалі, як трэба працаваць і перамагаць.

Рукамі 6000 рабочых пабудавана найвялікшая ў сьвеце фабрыка хлеба.

У першых радох будаўнікоў гіганту—500 комуністых і комсамольцаў. Пад іх кіраўніцтвам расьце і мацнее бальшавіцкі саўгас.

Кожны год у саўгас „Гігант“ прыяжджаюць сотні людзей, каб паглядзець, як працуе фабрыка хлеба, чаго яна дасягнула праз упартую працу.

„Гігант“ мае шмат падшэфных колгасаў. Ён памагае ім машынамі і рабочай сілай. Рабочыя „Гіганту“ ня толькі будуюць свой саўгас,—яны вучаць і другіх, як лепш працаваць на зямлі.

Па прыкладу саўгасу „Гігант“ у нас скора будзе пабудована шмат такіх фабрык хлеба—саўгасаў.



# Зярнёвая фабрыка

**Урывак з твору „Дзед і ўнук,“ які на Ўсебеларускім конкурсе на лепшую дзіцячую кніжку атрымаў 2-ую прэмію *).**

Увечары Кім сказаў Юзіку:

— Заўтра я еду ў Мацюкі, да бацькі. Хочаш ехаць разам?

— Вядома. І як яшчэ!— ускрыкнуў Юзік.

Назаўтра выехалі пасьля паўдня. Ускараскаліся на скрыні з яйкамі, што адвозіў грузавы аўтомобіль у Мацюкі, і паімчаліся па роўнай шашы. Хутка мінулі апошнія будынкі Курычаў і апынуліся сярод засеяных палёў.

Юзік з гары аглядаў бязьмежнае збожжавае мора, сярод якога аднак віднеліся нейкія пабудовы. Вось адзінока стаіць ні то станцыённая вадакачка, ні то вятрак з нейкімі нязвычайнымі коламі-крыльлямі. У некалькіх мясцох стаяць вялізарныя будынкі-павеці, бяз сьцен і з нейкімі паляцямі-паверхамі. А некаторыя з іх былі са сьценамі.

Гарачыня страшэнная; нават досыць значны ветрык не асьвяжае паветра, бо дзьме ён з усходу, і адзіная карысьць ад яго тая, што адносіць у бок пыл з-пад аўтомобілю. Ды колы вятрака круцяцца ад яго. Але пасевы трымаліся добра; сухмень, відаць, яшчэ не пашкодзіў ім.

— Эх, добрае жыта!—кінуў гаспадарскім вокам Юзік.—Але што будзе, калі пратрымаецца яшчэ сьпякота?

— Ды нічога ня будзе,— абыякім тонам адказаў Кім.

Юзік зьдзіўлена зірнуў на яго.

— Яно адкрасавалася і налівaецца. Якраз цяпер і патрэбен

*) У гэтым урыўку апявядаецца пра ўражаньні хлопчыка Юзіка ад зярнёвай хлебнай фабрыкі. Юзік пападае ў Савецкую Беларусь да сваёй радні з Заходняй Беларусі, у той час, калі ў нас тут, у Краіне Саветаў, заканчваецца пабудова соцыялізму. Замест звычайных бедных вёсак, якія спадзяваўся ўбачыць Юзік, ён убачыў цэлыя гарады -фабрыкі мяса і хлеба.

дождж, — навучальна прамовіў Юзік, — бо зерне будзе малое.

Кім усьміхнуўся.

— Дармо! Вырасьце!

Юзік убачыў, што „гарадзкі“ Кім нічога не разумее ў гэтых справах і з важным выглядам пачаў тлумачыць:

— Дождж не патрэбен толькі тады, калі жыта красуе. А калі яно ўвесну расьце ды цяпер наліваецца, то вельмі патрэбен. Зерне ад гэтага робіцца буйным.

Кім усьміхаўся.

— А калі патрэбен, дык яго зробяць.

— Каго?

— Дождж.

— Хто?

— Вядома, мы самі. Не спадзявацца-ж на вашага бога.

Здаецца, пасьля трохтыднёвага жыцьця тут Юзік азнаёміўся з усімі „цудамі“, але — на табе! — яшчэ новыя штукі.

— Як-жа-ж гэта так? — прамовіў ён і нават спусьціўся ніжэй з скрынкі.

— Ды так, — адказаў Кім сьмяючыся

— Якім чынам?

— А вось убачыш.

— Ну, скажы-ж, як гэта робіцца?

— Пачакай, сёньня, напэўна, там убачыш.

Як ні прасіўся Юзік, але Кім больш нічога не сказаў. Юзік паскрыўдзіўся, узьлез яшчэ вышэй і адвярнуўся ад Кіма.

Зараз-жа паказаліся і Мацюкі. Белыя шматпавярховыя камяніцы, коміны, адным словам, як і ўсе тутэйшыя „вёскі“.

Зьлезьлі з аўтомобілю, які паехаў далей на склады, а самі пашлі ў адзін з дамоў-палацаў.

Зайшлі ў пакой дзядзькі Сымона. Ён якраз зьбіраўся ісьці на працу.

— А-а! Калі ласка! — весела ўскрыкнуў ён. — Прывёз „эмыг-



*Над палямі ўздымаліся дзесяткі вадзяных струменяў*

ранта* паказаць нашу гаспадарку?

— І тое і другое,— адказаў Кім. — Ты ідзеш?

— Трэба ісьці ў поле. Званілі па тэлефону ў Менск, каб прыслалі дажджу,— адказваюць, што ў гэткі сухавей усе самалёты за працай. Прыдзецца самім рабіць.



— А што гэта за будынкі?
— Гэта нашы азяроды.

Гаворачы аб гэтым, як аб звычайнай справе, бацька з сынам нават ня бачылі, што робіцца з Юзікам. Той стаяў, разявіўшы рот і вылупіўшы вочы, і з нейкім жахам пазіраў то на дзядзьку Сымона, то на Кіма.

— Растлумач ты яму,—засьмяяўся дзядзька Сымон.—Калі хочаце, падыйдзеце ў поле, а я пабягу.

— Вось у чым справа,—пачаў Кім, ідучы дарогаю.—Дождж адбываецца альбо сам праз сябе, калі паветра досыць насычана вадою, альбо з дапамогаю электрычных разрадаў, як гэта бывае ў навальніцу. А калі мы самі ўладаем электрычнасьцю, дык мы можам скарыстаць яе заместа навальніцы. Для гэтага нашы самалёты рассыплюць у паветры насычаны электрычнасьцю парашок, нібы пясок— і выклікаюць дождж. Але гэты спосаб яшчэ вельмі дарагі, таму часьцей даводзіцца карыстацца старым спосабам, які зараз ты ўбачыш.

І сапраўды, спосаб быў вельмі просты. Рабочыя рассыпаліся на полі, і ў розных мясцох узьняліся фонтаны вады, як з пажарнага рукава. Разьмеркаваны яны былі так, каб ахапіць пэўнымі вучасткамі ўсю плошчу.

Падышоўшы бліжэй, Юзік убачыў на межах, на пэўных адлегласьцях чыгунныя тумбачкі, з якіх і бралася вада. Апрача таго, у розныя бакі ішлі маленькія раўкі, па якіх бегла вада. Але можна было заўважыць,

што яны зараз-жа прыпыняліся, калі пачалі паліваць поле з тумбачак.

— Няўжо-ж гэта па ўсім полі пракладзены вадаправодныя трубы?—спытаўся Юзік.

— А чаму-ж не?—адказаў Кім.—Гэта каштуе нядорага. І калі зробяць раз, дык праз некалькі год усе выдаткі вернуцца. І мы вызваляемся ад ласкі прыроды, або, як раней казалі, бога.

— Адкуль-жа узяць гэтулькі вады?

— Вось тая вежа і дае,—паказаў Кім на вятрак, які заўважыў раней Юзік.—Яна стаіць на самым высокім месцы, а побач унізе выкапана некалькі вялікіх студняў. Не глядзі, што вежа адсюль здаецца невялікай; сапраўды яна вельмі вялікая, і наверсе ў ёй зьмяшчаецца вады ня менш, як у нашай сажалцы. Колы самі круцяцца ад ветру і ўвесь час паказваюць запас вады.

— Бач, якая рэч!—прамовіў Юзік. — Застаецца толькі знайсьці раду, калі дажджу бывае занадта.

— А гэта ўжо прасьцейшая справа. Лішняя вада сьцякае вот па тых большых каналах.

Яе зьбіраюць і нясуць туды гэтая самыя раўкі, што цяпер абвадняюць поле.

Вось бачыш тут, дзе маленькі равок упадае ў вялікі, зроблена цэмантавая грэбелька. Калі ад дажджу вады зьбіраецца занадта, яна праз гэтую грэблю выцякае ў большы канал. Такім чынам, гэтыя раўкі адначасова служаць і для абваднецьня і для асушкі.

Сонца схілялася на захад, але гарачыня не зьмяншалася. На небе ані хмаркі. А над палямі ўздымаліся дзесяткі вадзяных струменьняў, рассыпаліся ўверсе на мільёны іскраў і падалі на пасевы сапраўдным дажджом.

Праз дзьве гадзіны вызначаная частка плошчы была палітая. На больш не хапіла вады.

— Другую частку будзем паліваць заўтра,—казаў дзядзька Сымон, ідучы дадому.

— А што-ж гэта за будынкі параскіданы па полі?—спытаў у яго Юзік.

— Гэта нашыя азяроды.

— А гэта што за зьвяры такія „азяроды“?—спытаўся Кім.

Дзядзька Сымон весела засьмяяўся.

— Вы, маладыя, нават ня ведаеце. Толькі мы, старыя, я ды Юзік, памятаем тыя часы, калі снапы сушылі... пад дажджом, на жэрдках. А цяпер мы сушым іх пад тымі павецямі. Сажнем і зараз-жа туды—ніякага дажджу не баімся. А калі трэба хутчэй, дык апускаем фанерныя сьцены, запускаем элек-

трычныя вэнтылятары з гарачым паветрам—і праз некалькі гадзін снапы сухія. Праўда, цяпер мы большай часткай адразу жнем і малоцім комбайнамі, але часта здараецца, што трэба і сушыць, асабліва, калі надвор'е вільготнае. Нават наша жніво не залежыць ад надвор'я: можам жаць і вазіць хоць у дождж.




*А цяпер пойдзем на стайні*

Юзіку вельмі хацелася заразжа аглядзець усю гаспадарку, але надыходзіў вечар, і Кім параіў пераначаваць і адкласьці агляд да заўтрага.

Назаўтра Юзіку паказалі гаспадарку.

Пасьля Курычаў ён ужо ня дзівіўся так, як першы раз. Ды і ня было тут такіх цудаў, як у птушынай гаспадарцы. Мацюкоўская гаспадарка была збожжавая, хлебная, і ўсё ў ёй было дапасавана да гэтай галіны. Але і тут было на што паглядзець.

Узяць хоць-бы сьвіраны з сельска-гаспадарчымі машынамі. Гэта былі нейкія фабрычныя склады. Чаго-чаго тут ня было: шматлямешныя плугі, вялізныя сеялкі, жняяркі, усялякія хітрыя бароны, і шмат машын, якіх ў пана Загорскага ня было. Сярод іх асабліва вызначаліся караблі-комбайны. Побач была цэлая фабрыка для рамонту і наладжваньня ўсіх гэтых машын.

— А цяпер пойдзем на стайні—сказаў хлопец, які паказваў гаспадарку.

На „стайнях“ было 360 трактароў, 80 грузавых аўтомобіляў

і сотні пляцформ, падобных да чыгуначных. Гэтыя пляцформы, на чале з трактарам, ці аўтомобілем, складалі нібы цягнікі ў час працы. Такія цягнічкі з некалькімі пляцформамі Юзік бачыў ужо раней.

Далей—высокія будынкі -- элеватары куды ссыпаюцца збожжа. Там яно ачышчаецца, сушыцца, сартуецца, і непасрэдна ракой цячэ па трубах у млын пабудаваны побач.

А з млына такім-жа самым чынам на хлебазавод...

Убачыўшы такую організацыю працы, Юзік з захапленьленьнем ускрыкнуў:

— Гэта-ж выходзіць, што варта толькі ўсыпаць збожжа ў элеватар, а далей яно само выйдзе печаным хлебам!

— Бадай-што так, — адказалі яму. — Навошта-ж валтузіцца з ім, цягаць узад і ўперад, калі ўсё можна зрабіць адразу на месцы. Ня толькі вы, але гаспадаркі на 100 — 150 кілёмэтраў навакол атрымліваюць ад нас хлеб, нават цёплы яшчэ. Аўтомобілі па шашы за 4 гадзіны дастаяць хлеб у самы далёкі пункт, а назад прывязуць іншыя продукты, як, напрыклад, ад вас яйкі і курынае мяса.

Дадому Юзік ехаў якраз з гарачым сьвежым хлебам.

— Ну, што?—сустрэў яго дзед дома. Як спадабалася наша зярнёвая фабрыка?

— Я толькі зьдзівіўся, як гэта вы ўсе прызвычаіліся да ўсяго такога, — адказаў Юзік, паціснуўшы плячыма.

— Нічога! Пажывеш—і ты прызвычаішся.



*Машына-конная калёна ўзьнімае цаліну*

# ДАПАМОЖАМ ЧЫСЬЦІЦЬ НАСЕНЬНЕ

Дзеці вы, напэўна, бачылі, што часта сярод збожжа расьце шмат розных кветак, рознае непатрэбнае травы. Гэта трава і кветкі, акрамя шкоды, нічога не даюць. Яны займаюць дарэмна месца на полі. Яны крадуць ад збожжавых расьлін яду. На іх заводзяцца розныя шкодныя казюлькі, што псуюць збожжа, з такога поля атрымліваецца нячыстае збожжа. А з нячыстага збожжа будзе чорны хлеб. Ёсьць расьліны шкодныя для здароўя чалавека. Напрыклад, дурнап'ян. Калі ён пападзе ў хлеб і калі чалавек зьесьць гэтага хлеба, дык у яго баліць галава і ён можа захварэць.

— А як папалі гэтыя непатрэбныя расьліны на поле?

Іх пасеялі разам са збожжам.

Іх насеньне было зьмешана з насеньнем збожжавых расьлін.

— Як-жа пазбавіцца ад рознае такой непатрэбнай травы ў збожжы?

Трэба сеяць толькі чыстым насеньнем. Перад сяўбою насеньне трэба прачысьціць. Гэта на шмат павялічыць ураджай нашых палёў і ачысьціць яго ад непатрэбных шкодных расьлін.

Для ачысткі насеньня ёсьць розныя машыны — сартоўкі, трыеры і інш.



## САРТОЎКА

Сартоўка дзеліць насеньне на сарты.

Робіцца гэта так: насеньне сыплюць зьверху ў скрынку і круцяць ручку сартоўкі. Зерне сыплецца ўніз і трапляе на моцны вецер, які атрымліваецца, калі круцяць крыльлі сартоўкі. Цяжкае зерне лепшага сорту сыплецца бліжэй. Другі сорт, больш лёгкі, сыплецца далей. А астатнія лёгкія зярняты і насеньне рознае травы адлятае далей.

Першы сорт зернят трэба пакінуць на насеньне.

## ТРЫЕР

Сартоўка дзеліць зерне па вазе. Але ёсьць насеньне некаторай травы (напрыклад, куколь), якое таксама цяжкае і пападае ў першы сорт. Адлучыць яго можна толькі пры дапамозе трыера.

Трыер сартуе зерне па даўжыні. Чысьціць трыерам можна толькі насеньне чыстае ад пылу і сьмецьця.

Актябраты і ўсе дзеці павінны растлумачыць бацьком аб тым, каб яны сеялі толькі чыстым насеньнем, бо ад гэтага павялічыцца ўраджай і ачысьціцца збожжа.

Акрамя гэтага, мы павінны самі дапамагчы чысьціць насеньне.

Нашым старэйшым таварышом — піонэрам дадзена дзяржаўнае заданьне. У гэтым заданьні гаворыцца аб тым, каб кожны атрад і школа адсартавалі ня менш аднае тоны (тона—61 пуд.) насеньня.

Дапаможам піонэрам выканаць гэтае заданьне.

На сваіх школьных градках таксама трэба сеяць і садзіць толькі добрым сартаваным насеньнем.



Трыер

# ЯКІЯ МАШЫНЫ САМЫЯ ПАТРЭБНЫЯ

Жалеза для машын у нас хопіць. Сілы на работу таксама хопіць Якія-ж машыны мы будзем рабіць?

Нам патрэбны ўсякія машыны. Машын вельмі шмат. Для кожнае работы прыдумана машына. Ёсьць машыны, якія шыюць боты. Ёсьць машыны, якія прадуць кудзелю. Ёсьць машыны, якія робяць паперу. Ёсьць машыны, якія лічаць. І ёсьць машыны, якія робяць машыны.

Машын — дзесяткі тысяч. Якія-ж з іх самыя патрэбныя?

Самыя патрэбныя з іх тыя машыны, якія робяць машыны. Бо зразумела: калі ў нас будуць такія машыны, дык будуць і ўсе астатнія. Яны зробяць усялякую машыну для ўсялякага заводу.

У нас да гэтага часу такіх машын было мала. У нас былі аўтомобілі, але ня было машын, якія робяць аўтомобілі. У нас былі трактары, але ня было машын, якія робяць трактары.

## ВОСЬ ГЭТЫЯ МАШЫНЫ



*Сьвідравальны варштат.* *Шліфавальны варштат.* *Шасьціпатронны аўтомат.* *Такарны варштат.*

І таму нам прыходзілася і яшчэ прыходзіцца купляць аўтомобілі, трактары і іншыя машыны заграніцаю і плаціць капіталістым за гэта шмат грошай.

А гэта кепска. Наша краіна працуе па пляну. Гэта работа не павінна залежыць ад таго, ці захоча які-небудзь капіталісты прадаваць нам машыны, ці не захоча.

Капіталістым нашы пляны не падабаюцца. Яны ўсякім чынам стараюцца нам пашкодзіць. Капіталістыя ведаюць, што мы будуем соцыялізм, а пры соцыялізьме ім будзе канец.

Чаму-ж яны прадаюць нам машыны?

Толькі таму, што ім трэба каму-небудзь прадаваць, ім трэба збыць зроблены тавар.

Нам нельга залежаць ад капіталістых. І таму мы павінны рабіць і робім у першую чаргу такія машыны, якія робяць машыны.

*М. ІЛЬЛІН. (З кніжкі „План великих работ*).

## ЗРОБЯЦЬ ГЭТЫЯ МАШЫНЫ



*Мотоцыклет.* *Комбайн.* *Машынка для друкаваньня.* *Трактар.*




*Апав. Л. БАЛЯСЬЦІНАВА* *Мал. П. ГУТКОЎСКАГА*

Прыехалі мы з бацькам у мястэчка здаваць у коопэратыў хлеб. І шмат няшых вясковых прыехала. Здалі хлеб, пашлі на базарную плошчу.

Бацька мне кажа:

— Пойдзем у коопэратыў, я табе куплю цукерак.

А я і рад, ног пад сабой ня чую ад радасьці.

Навакол коопэратыву шмат людзей сабралася. Чую я раптам з натоўпу голас малога хлопчыка.

— Дапамажэце палоньнікам буржуазіі, політзьняволеным, барацьбітом рэволюцыі!.. Дайце ў МОПР, хто што можа!

Хто крычыць,—за людзьмі ня відаць.




Я кажу бацьку:

— Тата, дай мне трохі грошай.

— А навошта табе? Колькі табе патрэбна?

— Дай пятачок. Вунь, чуеш, крычаць: „дапамажэце палоньнікам буржуазіі“, дык я дапамагу грашыма... З буржуйскай турмы рабочых вызвалю...

— З турмы? Гэта добрая справа!

Выняў бацька грошы і даў мне пятачок. Я ўзяў грошы, гляджу кругом. А з натоўпу хлопчык вышаў. Ростам малы, на грудзёх зорка чырвоная. Праз плячо ў яго на раменьчыку вісіць бляшанка. А на бляшанцы прыклеен лісток. На ім намалёвана турма і напісана: „МОПР. ДАПАМАЖЭЦЕ БАРАЦЬБІТОМ РЭВОЛЮЦЫІ.

Я падышоў да хлопчыка. Укінуў у бляшанку пятачок, а ён усьміхнуўся і значок мне падае.

— Малайчына!..—кажа,—пятачком сьцены турмаў разьбіваеш!..

Я на значок паглядзеў, а там напісана:

„Дапамагаючы рэволюцыянэрам Захаду, ты дапамагаеш будаваць соцыялістычную гаспадарку сваёй краіны. Кожны твой пятачок разьбівае сьцены капіталістычных турмаў!



*Дзіцячая пляцоўка ў колгасе „Новы Шлях“ Сьмілавіцкага раёну*

# ЯК ЖЫВУЦЬ ДЗЕЦІ РАБОЧЫХ У ПОЛЬШЧЫ

Польшча, гэта капіталістычная краіна. У Польшчы голад, беспрацоўе. Там сотні тысяч рабочых і сялян паміраюць з голаду. Яны ня маюць работы.

Ня лепш жывецца і дзецям рабочых. Яны таксама галодныя. У аднэй толькі Варшаве (сталіца Польшчы) у пачатковых школах налічваецца 16 тысяч галодных дзяцей, бацькі якіх ня маюць работы.

Рабочыя змагаюцца з капіталізмам. Яны робяць забастоўкі, наладжваюць дэманстрацыі супроць буржуазіі.

Не адстаюць ад іх і пролетарскія дзеці. У Варшаве нядаўна былі праведзены дзьве дэманстрацыі дзяцей рабочых. Галодныя, абарваныя, босыя дзеці вышлі на вуліцу стройнымі радамі. Яны несьлі плякаты з надпісамі: „**Работы і хлеба нашым бацьком і маткам**“.

Некаторыя жанчыны, што праходзілі па вуліцах, плакалі, гледзячы на паход галодных дзяцей. З дамоў, дзе жылі рабочыя, дзецям выносілі хлеб.

Начальнік паліцыі даў загад разагнаць дэманстрацыю дзяцей. Паліцэйскія накінуліся на дзяцей і разагналі іх. Але яшчэ доўга на вуліцы чутны былі дзіцячыя крыкі: „Дайце нам хлеба! Мы галодныя. Далоў капіталістых!“



**Узмацнім саюз дзяцей працоўных усіх краін, усіх нацыянальнасьцяй!**

**Організуем гурткі Юных Прыхільнікаў МОПР'у!**



*Дзіцячая пляцоўка ў Азэрбайджане.* На здымку: *дзеці танцуюць*



*Дзеці з колгасу „Прабуджаная праца“ Самахвалаўскага раёну*

# ДОБРАЯ ПАРАДА



Раз на зборы акцябрат
Піонэр рабіў даклад,

А ў канцы свайго дакладу
Янка дзецям даў параду:

Ці-ж ня сорам, дзеці, нам?
Дзе ні глянь—усюды хлам.

На вуліцах, на дварох
Топчам з вамі мы дабро.

А таксама многа хламу
Ёсьць у сьметнікавых ямах.

Дык давайце больш ня спаць—
Заўтра хлам будзем зьбіраць!..

А назаўтра раніцою,
Вышлі дзеці грамадою,

І ўсе весела з ахвотай
Узяліся за работу.

Манька, Янка і Рыгорка
Цягнуць хлам з усіх надворкаў,

Ім Алеся памагае,
Хлам у кошыкі складае.

А як хламу назьбіралі,
Дык дзяржаве яго здалі.

* * *

Акцябрата і ўсе дзеці,
Прыклад з іх усе бярэце.

Вучань *В. Шушкевіч*

---

* * *

**Вучні 5-й групы „А" 20-й менскай школы сабралі на пабудову дырыжабля „Клім Варашылаў" 5 р. 38 к. і выклікаюць усе школы г. Менску ўзяць з іх прыклад**

М. Баданес.

---



**Знайдзеце на малюнку шостага лесаруба**

# ШТО МЫ РОБІМ



## ПАШЫРАЕМ „ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА“

Дзяткораўскі гурток пры Лагойскім беларускім піонэр-атрадзе ўзяўся за пашырэньне часопісі „ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА“. Мы пастанавілі правесьці гутаркі аб „Іскрах Ільліча“ на зборах атрадаў і школ м-ка Лагойск і ў бліжэйшых вёсках.



## ПАБУДУЕМ ДЫРЫЖАБЛЬ

Дзеці дзіцячага саду пры шостым жакце (г. Менск) уносяць на пабудову дырыжабля „Клім Варашылаў“ 6р. 15к. і выклікаюць усе дзіцячыя сады г. Менску зрабіць тое-ж самае.



Вылучылі дакладчыка на бацькоўскі сход, дзе скажам бацьком, каб яны абавязкова выпісалі сваім дзецям „Іскры Ільліча“.

Для кіраваньня гэтай працай вылучана брыгада. Яна ўжо распачала працу. Выклікаем усе дзяткораўскія гурткі на спаборніцтва па пашырэньні часопісі „Іскры Ільліча“.

Баркан Рася.

Увага: у час друкаваньня нашай часопісі былі ускрыты канвэрты з дэвізамі (умоўнымі абазначэньнямі) твораў, якія атрымалі прэміі на закрытым конкурсе на лепшую дзіцячую кніжку. Прэміі атрымалі: Я. МАЎР за твор „Дзед і ўнук“, А. ЯКІМОВІЧ за твор „Свая воля“ і З. БЯДУЛЯ за твор „Чорт“

Выдавецтва „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“

Рэдактары: ГАЙДУКЕВІЧ

472

ЦАНА 18 КАП.

# ПАДПІСВАЙЦЕСЯ
## НА АДЗІНУЮ Ў БССР ДЗІЦЯЧУЮ ЧАСОПІС
# ІСКРЫ

**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**

| | |
|---|---|
| На 1 месяц | 15 к. |
| На 3 месяцы | 45 к. |
| На 6 месяцаў | 90 к. |

„Іскры Ільліча“ самая патрэбная, карысная і цікавая часопісь для пачатковых школ, для малодшых піонэраў, для акцябрат, дзіцячых дамоў і садоў

**ДЗЕЦІ**

выпісвайце і чытайце сваю часопісь

**НАСТАЎНІКІ**

организуйце колектыўную падпіску сярод вучняў на часопісь

**БАЦЬКІ**

вашы дзеці хочуць чытаць сваю часопісь

**ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА** — зьмяшчаюць на сваіх старонках вершы, нарысы, галаваломкі жарты, прыгожыя малюнкі ў фарбах

**ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА** — даюць многа каштоўнага матар'ялу кожнаму настаўніку пачатковай школы, кіраўніку дашкольных устаноў, павадыру групы акцябрат і павадыру атраду

**ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА** — апрача орыгінальных твораў беларускіх пісьменнікаў зьмяшчаюць творы для дзяцей з расійскай, украінскай, нямецкай і іншых моваў

Падпіску здавайце толькі на пошту ці лістаносцам

# ІЛЬЛІЧА

Орган ЦК ЛКСМБ наркамасьветы

Друк. імя Сталіна. Заказ № 437. Тыраж 6.500. Галоўлітбел № 426.




Папраўка: У аддзеле „Як зрабіць сявалку“ першы радок трэба чытаць: „Частку „Н“ сагнеце ў 6 мясцох...

# ЯК ЗРАБІЦЬ ТРАКТАР

Наклейце асобныя часткі на тоўстую паперу. Цяпер пачынайце работу. Вазьмеце частку „А“ (радыятар) і сагнеце ў мясцох, што адзначаны кропкамі. Пасьля вазьмеце пярэднюю і заднюю частку радыятара „Б“ і, сагнуўшы па кропках, склейце з часткаю „А“. Склейвайце так, каб лічбы 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8 і 9 папалі адна на другую. Затым прыклейце радыятар на аснову „В“, адзначаную лічбай 1.

Далей бярэце частку „Г“, сагнеце яе ў 2-х мясцох па кропках і прыклейце накрыўкі на колы 14 і 15. Месца для сядзеньня „Д“ сагнеце ў 6 мясцох па кропках і прыклейце да сярэдзіны частку „Г“. Прыклейвайце так, каб лічбы 10, 11, 12 і 13 папалі адна на другую. Усю склееную частку пастаўце на другім канцы асновы „В“, на месцы, адзначаным літарай „Г“. Колы наклейце на фанэру ці на тоўсты картон і надзеньце іх на драўляныя кіёчкі (восі). Надзявайце так, каб колы круціліся.

Цяпер зрабеце руль. Бярэце палоску „Е“, прыклейце да яе кола „Е“ і ўмацуйце на сярэдзіне асновы „В“, на мясцох, што адзначаны літарай „Е“. Калі зробіце ўсё гэта правільна, трактар будзе гатовы.

## ЯК ЗРАБІЦЬ СЯВАЛКУ

Частку „М“ сагнеце ў 6 мясцох па лініях, што адзначаны кропкамі. Сагнуўшы, склейце так, каб папалі часткі 1 на 1. Да лічбаў 2 і 3 прыклейце яе бакавыя часткі „К“.

Частку „М“ сагнеце па лініі 4 і падклейце да нізу скрынкі „Н“, што адзначана лічбай 4, а з бакоў пастаўце колы.

КОЛЫ СЯВАЛКІ

